БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

1 лютага 1994 г.
Аўторак
№ 12(13728)
Кошт у розніцу 20 рублёў
Выдаецца з 1921 года

*Малюе Віктар ДУБОВІК*

*Дыплом юнага фермера "з адзнакай" нядаўна атрымаў адзінаццацікласнік сярэдняй школы № 1 г.Крычава Сяргей Хомачкін. Сяргей наведваў заняткі ў экалагічным цэнтры роднага горада, а потым паступіў у школу юных фермераў. Старшакласнікі вывучалі асновы жывёлагадоўлі і раслінаводства, праходзілі практыку ў гаспадарках Міншчыны і суседняй Польшчы.*

*Цяпер Сярожа можа паступіць без уступных экзаменаў у сельскагаспадарчую ВНУ.*

*Фота Валерыя БЫСАВА, Белінфарм.*

## Кур'ер "ЧЗ"

*У другім туры галасавання 28 студзеня Старшынёй Вярхоўнага Савета Беларусі выбраны М.І.Грыб.*

Грыб Мечыслаў Іванавіч нарадзіўся ў верасні 1938 года ў вёсцы Савічы Дзятлаўскага раёна Гродзенскай вобласці. Беларус. Бацька загінуў на фронце ў 1945 годзе ў час Вялікай Айчыннай вайны.

Грыб М.І. — прафесійны юрыст. У 1967 годзе скончыў юрыдычны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта па спецыяльнасці правазнаўства. З 1959 года працаваў на розных пасадах у праваахоўных органах рэспублікі. У 1985 годзе ўзначаліў упраўленне ўнутраных спраў Віцебскага аблвыканкама.Генерал-лейтэнант міліцыі ў запасе.

У 1990 годзе быў выбраны народным дэпутатам Рэспублікі Беларусь ад Віцебскай-Савецкай выбарчай акругі нумар 178. З 1990 года — член Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, старшыня Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па пытаннях нацыянальнай бяспекі, абароны і барацьбы са злачыннасцю.

Жанаты, мае дваіх дзяцей. Жонка працуе бухгалтарам. Сын — урач, кандыдат медыцынскіх навук, дачка — студэнтка.

Фота Сяргея БРУШКО.

### Аб пераносе рабочага дня

*У мэтах стварэння спрыяльных умоў для адпачынку працоўных і рацыянальнага выкарыстання рабочага часу Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь пастанавіў перанесці рабочы дзень з панядзелка 7 сакавіка на суботу 5 сакавіка 1994 г.*

### Прэм'ер зробіць перастаноўкі

*Як паведамлялася раней, у Мінску працавала група расійскіх экспертаў па дапрацоўцы пагаднення аб аб'яднанні грашовых сістэм Расіі і Беларусі.*

Паводле неафіцыйных звестак, эксперты з Масквы прапаноўвалі ўстанаўленне абменнага курсу беларускага і расійскага рубля 1:6, з чым Старшыня праўлення Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь катэгарычна не згадзіўся.

Як стала вядома, прэм'ер Вячаслаў Кебіч лічыць гэтую інфармацыю недакладнай. Ён адзначыў, што ідзе нармальны працэсс па дапрацоўцы дакументаў, звязаных з аб'яднаннем грашовых сістэм дзвюх дзяржаў.

Гаворачы пра свае адносіны да падзей, якія адбываюцца ў беларускім парламенце, Старшыня Саўміна сказаў, што пасля выніку галасавання аб даверы прэм'еру ён мае поўнае маральнае права правесці рашучую кадравую перастаноўку ва ўрадзе, што і збіраецца зрабіць.

БЕЛІНФАРМ.

### Як пабілі дэпутатаў

*У апошні час пранесліся чуткі аб тым, што адбылося з трыма народнымі дэпутатамі ля сталічнай гасцініцы "Мінск".*

Як паведаміла прэс-служба МУС Беларусі, 26 студзеня ў 22.30 пасля заканчэння вячэрняга пасяджэння сесіі Вярхоўнага Савета ля ўпамянутай гасцініцы ў адносінах дэпутатаў рабочым ТАА "Эльфо" і двума непрацуючымі маладымі людзьмі былі ўчынены хуліганскія дзеянні, у выніку якіх два дэпутаты атрымалі рознай ступені цялесныя пашкоджанні. Па гэтаму факту Маскоўскім РАУС узбуджана крымінальная справа.

У інцыдэнце ўдзельнічалі народныя дэпутаты Вярхоўнага Савета Беларусі А.Лябедзька, С.Бердаўцаў і А.Шыпко. Вядома, што А.Лябедзька абараняў свой гонар і годнасць газавым балончыкам, а прадстаўнікі супрацьлеглага боку дзейнічалі кулакамі і бутэлькай, ударам якой была зламана ніжняя сківіца ў дэпутата С.Бердаўцава.

### "Стары горад" супраць галоўнага архітэктара

*Грамадска-культурнае аб'яднанне "Стары горад" звярнулася да мясцовых улад з патрабаваннем вызваліць ад займаемай пасады галоўнага архітэктара Брэста і перадаць справу аб яго дзейнасці ў суд.*

Нераўнадушныя людзі, прафесіяналы-архітэктары прыводзяць нямала аргументаў, якія пацвярджаюць, што В.Гапіенка на працягу амаль 15 гадоў працы на такой адказнай пасадзе злоўжываў службовым становішчам, чым дапамог старажытнаму Брэсту "пазбавіцца" ад многіх помнікаў горадабудаўніцтва і пераўтварыцца ў шэры і непрывабны горад.

### Каму прымаць канстытуцыю?

*У апошні час у Беларусі даволі актыўна абмяркоўваецца пытанне: хто павінен прымаць новы Асноўны закон рэспублікі?*

Паводле даных апытання Інстытута сацыялогіі Акадэміі навук Беларусі, 61 працэнт рэспандэнтаў лічыць, што Канстытуцыю павінен прымаць народ шляхам рэферэндуму. 11,2 працэнта мяркуюць, што гэта задача Вярхоўнага Савета, і 8,6 працэнта - Канстытуцыйнай асамблеі. Астатнія рэспандэнты прапанавалі свае варыянты ці ім было цяжка адказаць.

### Інтэрв'ю У.Ягорава

*Як паведаміў уласны карэспандэнт БелаПАН у Вільні, самая папулярная літоўская газета "Летувас рытас" апублікавала інтэрв'ю з былым міністрам унутраных спраў Беларусі Уладзімірам Ягоравым.*

У.Ягораў, у прыватнасці, сказаў, што пакаранне яго Вярхоўным Саветам зусім неадэкватна ўчынку. "У такім выпадку трэба было адхіліць ад пасады і Генеральнага пракурора Беларусі, бо без яго згоды я не мог прадпрыняць такія дзеянні", — заўважыў Ягораў. Сваю памылку ён бачыць толькі ў тым, што рашэнне затрымаць і перадаць Літве кіраўнікоў камуністычнай партыі Літвы М.Буракявічуса і Ю.Ярмалавічуса было прынята без пісьмовага дазволу Генеральнага пракурора, а толькі па яго вуснай санкцыі. "У прынцыпе, — падкрэсліў Ягораў, — выдача законная. Калі і былі парушэнні, дык толькі працэсуальныя".

БелаПАН.

### Самазабойца ў метрапалітэне

*У мінулую пятніцу ў 15 гадзін на непрацяглы час быў спынены рух на Маскоўскай лініі метрапалітэна.*

33-гадовы жыхар г.Мінска Генадзь В., вырашыў такім незвычайным шляхам звесці рахункі з жыццём, але "абышоўся" цяжкім раненнем. Гэта ўжо трэці няшчасны выпадак на станцыі "Плошча Якуба Коласа".

Лідзія РЫЖАНКОВА.

### Цячэ вада ў... лічыльнік

*Грошы любяць падлік... Час удакладніў гэтую народную мудрасць: цяпер лічыць трэба ўсё без выключэння. У тым ліку і ваду, якой, здавалася, у нас больш чым дастаткова.*

Мінскі завод сродкаў аўтаматызацыі выпусціў першую, эксперыментальную партыю прыбораў уліку вады. І літаральна на працягу лютага яны будуць устаноўлены ў кватэрах грамадзян беларускай сталіцы. Сёння выдаткаванне вады Мінску дасягае ў сярэднім да 600 літраў на аднаго чалавека. Дзяржава страчвае ў выніку мільёны рублёў.

Алесь МЯСНІКОЎ.

### Музыка з глыбіні стагоддзяў

*Фестываль старажытнай музыкі прайшоў у канцэртнай зале Сафійскага сабора ў Полацку.*

На працягу некалькіх дзён гучала свецкая і духоўная музыка XV—XVIII стагоддзяў. Госці фестывалю з розных гарадоў краін блізкага замежжа выконвалі вакальныя творы Моцарта і Гайдна, іншых кампазітараў. Выступленні Дзяржаўнай класічнай капэлы з Масквы, маскоўскага ансамбля салістаў старажытнай музыкі "Аргышоў-Капсорт", выканаўцаў-салістаў не пакінулі абыякавымі нікога з гледачоў, якія праз сусветна вядомыя творы, такія, як "Рэквіем" Моцарта, змаглі хоць на кароткі час забыцца на свае жыццёвыя цяжкасці, нягоды і акунуцца ў такі чароўны і такі вечны свет музыкі, адчуць рамантычную атмасферу старажытных часоў.

Сяргей ВІШНЕЎСКІ.

**Курсы валют на 31 студзеня:**

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 5780 | 6070(6250) | 3300 | 3470(3570) |
| "Белбізнесбанк" | 5700 | 6100 | 3250 | 3400 |
| "Прыор" | 5750 | 6000 | 3280 | 3430 |

*(У дужках —курс за безнаяўны разлік)*

**ПАДЗЕІ ТЫДНЯ**

# У Вярхоўным Савеце новы Старшыня. А якім будзе палітычны курс?

□ Андрэй ВАСІЛЕВІЧ

Што ж адбылося на мінулым тыдні ў Вярхоўным Савеце? Звычайная кадравая ператасоўка? Наменклатурны спектакль па добра распрацаванаму сцэнарыю? Камуністычны пераварот?

Каб разабрацца ва ўсіх неардынарных падзеях, што скаланулі палітычнае жыццё краіны, трэба крыху прыпыніцца і задумацца, не спяшаючыся з навешваннем таго альбо іншага ярлыка.

Называць кардынальныя кадравыя перамены пераваротам нельга, бо яны адбыліся ў межах заканадаўчага рэчышча. Немагчыма ўгледзець нейкія парушэнні дзеючай Канстытуцыі.

Але чаму так непрыемна адгукнулася адкліканне з пасады Старшыні Вярхоўнага Савета ў Маскве? "Комсомольская правда" адгукнулася рэзка — Шушкевіча "з'елі". "Известия" таксама песімістычна ацэньваюць перспектыву: "Вынікі галасавання знялі апошнія сумненні адносна арыентацыі беларускага парламента: камуністы ў ім маюць пераважную большасць. Мяркуючы па ўсяму, новым Старшынёй Вярхоўнага Савета выберуць чалавека, якому лягчэй будзе знайсці агульную мову з Зюганавым, чым з Ельцыным".

Такія водгукі прыйшлі з Масквы, з крыніц, якія дакладна адчуваюць настрой у прэзідэнцкіх колах. Адстаўка Шушкевіча, аднаго з "белавежскіх зубраў", наўрад ці выкліча станоўчую рэакцыю ў Барыса Ельцына. Ён, як вядома, пры сустрэчы ў Ашгабаце выказваў перасцярогу, каб не дапякалі Шушкевіча патрабаваннямі аб адстаўцы.

Гэта не пераварот, але несумненнае ўмацаванне прасаўмінаўскага і пракамуністычнага асяроддзяў, што існуюць у Вярхоўным Савеце. Адхіленне ад пасад Ягорава і Шыркоўскага — палітычная аперацыя ў чыстым выглядзе. Абнародаваныя папрокі ў іх адрас — не больш чым камуфляж. У затрыманні і перадачы літоўскіх камуністаў многія эксперты бачаць непасрэдную віну Генеральнага пракурора Васіля Шаладонава, але яго прозвішча ў бюлетэнях выкрэслівалі нямногія. Такім чынам, пакаралі не юрыдычных віноўнікаў, а палітычных, тых, хто раней асмеліўся сказаць сваё слова, несугучнае саўмінаўскаму настрою.

Станіславу Шушкевічу прад'яўлялася нямала абвінавачванняў. На мой асабісты погляд, ён так і не праявіў цвёрдасці ў вызначэнні сваёй пазіцыі да найвышэйшых чыноўнікаў з Саўміна, якім інкрымінаваліся нежартоўныя карупцыйныя махінацыі. Ён, відаць, даверыўся Кебічу, а прэм'ер-міністр таксама прамаўчаў.

Тое, у чым вінаваціў Шушкевіча Аляксандр Лукашэнка, не мае нічога агульнага з карупцыяй. Магчыма, яго падвялі шустрыя людзі з бліжэйшага акружэння, бо не сам жа Старшыня Вярхоўнага Савета ездзіў у рамонтнае ўпраўленне, і не сам складаў каштарыс. У любым выпадку недарэчнасці з рамонтнымі заказамі не ўпрыгожваюць Станіслава Шушкевіча, і ён мог бы яшчэ ў снежні мінулага года растлумачыць для прэсы, што за 13 аб'ектаў, да рамонту і будаўніцтва якіх Шушкевіч прылажыў руку. Маўчанне — не лепшы сродак абароны. І Лукашэнка атрымаў калючы козыр у асабістай барацьбе са спікерам.

Энергічны дэпутат са Шклоўшчыны выйграў паядынак. Барацьба паміж ім і Шушкевічам ляжыць, на мой погляд, у псіхалагічнай плоскасці. Вельмі па-снабісцку ўжо адштурхоўваў увесь час Лукашэнку з ягонымі прапановамі Старшыня Вярхоўнага Савета, дэманструючы інтэлектуальную перавагу прафесара над сялянскім кіраўніком.

Далейшае развіццё падзей не паддаецца лагічнай ацэнцы. Калі Шушкевіча выкрэсліваюць за непрыяцце рашучых мер у барацьбе са злачыннасцю, то чаму на першым плане з'яўляецца фігура старшыні Пастаяннай парламенцкай камісіі Мечыслава Грыба? Яго ж таксама можна крытыкаваць за бязмежны разгул злачыннасці, за абыякавыя адносіны да гідры карупцыі...

Вярхоўны Савет менш за ўсё цікавіць такая агідная з'ява, як карупцыя. З ёй пакуль што гатовы змагацца толькі нястомны і бясстрашны Аляксандр Лукашэнка. А дэпутацкая большасць забудзецца пра прозвішчы віцэ-прэм'ераў, міністраў і іншых чыноўнікаў. Кампрамат ім быў патрэбен да таго, пакуль ён працуе супраць такой асобы, як Шушкевіч. Пры ўсім сваім палітычным віхлянні ён не апускаўся поўнасцю да адзінадушша з камуністамі і лабістамі Саўміна, рашуча абараняў (хоць бы і на словах) адраджэнне беларускасці, дэманстраваў перавагу інтэлекту над зашмальцаванымі ідэалагічнымі штампамі.

Мечыслаў Грыб, чыя зорка нечакана ўзнеслася на палітычны небасхіл, для аналітыкаў пакуль што "terra incognito". Не выклікае сумнення, што ваенныя і міліцэйскія генералы знойдуць у яго разуменне сваіх пазіцый. Дасведчаныя людзі ў той жа час характарызуюць Мечыслава Іванавіча як спагадлівага, уважлівага і справядлівага чалавека.

Шмат што пакажа першае пасяджэнне сесіі, якім ён будзе кіраваць. Якім пытанням парадку дня будзе аддадзена перавага — чарговым кадравым разборкам альбо Грыб будзе настойваць на разглядзе больш важных жыццёвых пытанняў? Пачакаем...

Стала сумна, што пайшоў з жыцця Алесь Адамовіч. Яшчэ больш сумна, што кіраўнікі Расіі на чале з Барысам Ельцыным жалобным словам адгукнуліся на смерць вельмі таленавітага чалавека, а нашыя беларускія прэм'еры і старшыні, відаць, не змаглі пераадолець непрыяцце палітычнай пазіцыі Адамовіча. Дэпутаты павінны памятаць, як крыкам, пляскannем у далоні перашкодзілі выступіць свайму знакамітаму земляку ў парламенце.

## Станіслаў ШУШКЕВІЧ:

# "Я зрабіў больш, чым мог, але менш, чым хацеў..."

*У галасаванні, якое вызначала палітычную кар'еру Станіслава Шушкевіча, цяпер ужо былы Старшыня Вярхоўнага Савета не ўдзельнічаў, паехаўшы на дачу. Даць інтэрв'ю Станіслаў Станіслававіч згадзіўся, але паставіў адну ўмову: "Сустрэнемся праз пару-тройку дзянькоў. Я ж жывы чалавек, і не трэба, каб мой цяперашні эмацыянальны стан адбіўся на гутарцы, трэба супакоіцца, пра многае падумаць..."*

Шушкевіча мы знайшлі на яго дачы. Былі тут упершыню. І таму, вядома, да ўсяго ўважліва прыглядваліся. Чатыры з паловай соткі, садовае таварыства універсітэта, дзе ўсе адзін аднаго ведаюць. Першы ж дачнік паказаў "сядзібу" Шушкевіча. Нічога асаблівага ў ёй няма. На фоне цяперашніх асабнякоў дом Шушкевіча выглядаў, быццам сыраежка побач з баравікамі. Ні цэглы, ні зруба, бетон, аглаперыт, унутры — вагонка.

— Ніякіх іншых "маёнткаў" у мяне няма, — расказвае гаспадар. — У свой час Прэзідыум Вярхоўнага Савета прыняў рашэнне выдзеліць мне, як кіраўніку парламента, дачу ў Драздах. Але ў ёй ні я, ні мая сям'я не жылі ні аднаго дня. Так, яна, быццам бы, лічылася за мной, але выкарыстоўвалася толькі для афіцыйных прыёмаў.

Цяпер пра РБУ. У гэтым доме амаль усё зроблена маімі ўласнымі рукамі. Але любому нармальнаму чалавеку зразумела: калі патрэбны зварачныя работы, тынкоўка — без майстроў не абысціся. Я тут прыбудаваў гараж, вядома, трэба быў бетон. Дарэчы, да ведама тых, хто папракаў мяне ў асабістай нясціпласці, гаража ў горадзе ў Шушкевіча няма. Кааператыў, членам якога я з'яўляюся, вядзе будоўлю ўжо гадоў шэсць. І канца ёй не відаць.

Пра грошы. Няма ніводнага рахунку, які б я не аплаціў. Калі нехта думае, што тут усё робяць за капейкі — клянуся, гэта не так. Уся мая зарплата за апошнія гады "пайшла" на дачу. Жылі на грошы жонкі.

Пра маю былую кватэру на вуліцы Адоеўскага, у якой цяпер, быццам бы, жыве цешча. У тую двухпакаёвую кватэру ва універсітэцкім доме пасля майго пераезду на вуліцу Дразда ўсяліўся універсітэцкі супрацоўнік Кляўчэня. Мой цесць — удзельнік Сталінградскай бітвы, двойчы перанёс інсульт, цешча капала акопы пад Ленінградам. У яе хворыя ныркі.

Зразумела, што мая жонка хацела быць бліжэй да бацькоў. З Чыжоўкі яны пераехалі ў наш дом, дарэчы, страціўшы пры гэтым абмене шэсць квадратных метраў. Цяпер хоць сэрца спакойна за сына, ёсць каму забіраць яго са школы.

(Працяг на 2-й стар.)

"Еўраньюс" — "Суперчэннэл" — "Уорлднэт"

ДЗЕВЯТАЕ НЕБА

ЧЗ

### Чарнобыль: як нас падманулі

*Радыеактыўны фон у раёне ЧАЭС пасля аварыі быў у 4–5 разоў вышэйшы, чым паведамлялася.*

Да такіх высноў прыйшлі эксперты спецыяльнай амерыканскай камісіі, справаздача якой апублікавана нядаўна ў ЗША.

### Трагедыя ў гарах

*У выніку сходу дзвюх лавін у французскіх Альпах 9 чалавек загінулі.*

Трагедыя адбылася ў мінулы уік-энд.

### Боснія: забіты вадзіцель прадстаўніцтва ААН

*Трое невядомых, узброеных аўтаматамі Калашнікава, напалі на машыну прадстаўніцтва ААН у Босніі, непадалёк ад горада Зеніч. Вадзіцель забіты выстраламі ў галаву.*

Яшчэ два супрацоўнікі прадстаўніцтва паранены. Тэрыторыя, на якой адбылося нападзенне, кантралюецца мусульманскімі групоўкамі.

### ЕС: дэпашпартызацыя" не адбудзецца

*Адмена пашпартнага кантролю пры перасячэнні межаў краін Еўрапейскай Супольнасці, намечаная на 1 лютага, не адбудзецца з-за паломкі цэнтральнага камп'ютэра ў Страсбургу.*

Пакуль гэтая падзея адкладзена на няпэўны тэрмін. Дарэчы, да пагаднення, якое прадугледжвае адмену пашпартнага кантролю, пакуль не далучыліся Вялікабрытанія, Ірландыя і Данія.

### У Грэцыі ўсё ёсць. Нават снег

*Вельмі многа снегу выпала ў апошнія дні ў Грэцыі.*

70 маленькіх вёсачак аказаліся адрэзанымі ад свету. Тэмпература знізілася да -10°. У выніку замаразкаў некаторыя раёны Афін затоплены з-за аварый водаправода. З перабоямі працуе электразабеспячэнне, амаль не функцыяніруе аўтамабільны і паветраны транспарт.

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ



**Бізнес-клас**

*Вядучая рубрыкі Вера Палякова*

**Тэл.68-28-52**

## АЎКЦЫЁН

27 студзеня адбыўся трэці прыватызацыйны аўкцыён у Брэсце, арганізаваны Міжнароднай фінансавай карпарацыяй сумесна з Брэсцкім гарвыканкамам. Гэты аўкцыён мог бы быць і чацвёртым, але, як вядома, снежаньскі не адбыўся з-за няяўкі ўдзельнікаў на таргі.

На аўкцыёне прадугледжвалася выставіць 11 аб'ектаў на агульную суму 211 млн.150 тыс.рублёў. На жаль, адзін з лотаў (магазін № 25) не разыгрываўся з-за пратэсту савета дэпутатаў горада, яшчэ 4 лоты былі зняты, таму што на іх было пададзена толькі па адной заяўцы. Астатнія 6 прадалі за 589 млн. руб. Магазін "Піваводы" № 11 з пачатковай цаной 44,5 млн.руб. быў прададзены за 170 млн. рублёў, а сталовая №53, якая не працуе (першапачатковая цана 5 млн.руб.), была здадзена ў арэнду на 15 гадоў за 110 млн.рублёў, што ў 22 разы больш за ацэначны кошт. Увесь прыбытак, зароблены на аўкцыёне, пайшоў Брэсцкаму гарвыканкаму.

Ацэньваючы сціплыя вынікі аўкцыёну, начальнік аддзела па кіраванню камунальнай маёмасцю і прыватызацыяй гарвыканкама В.І.Валюшынскі растлумачыў, што прадпрымальнікі пакуль неахвотна ідуць на аўкцыёны, аднак у цэлым прыватызацыя ідзе даволі ўпэўненымі тэмпамі.

Ю.ТРЫФАНАЎ.

## ЯК МАЛАЯ ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ ЗАКРАНАЕ ВАШЫ ІНТАРЭСЫ?

Фарміраванне рыначнай эканомікі праз прыватызацыю ў канчатковым выніку прывядзе да павышэння жыццёвага ўзроўню насельніцтва. Сёння з-за адсутнасці канкурэнцыі дзяржаўныя магазіны не зацікаўлены ў задавальненні попыту насельніцтва на больш якасныя тавары і паслугі, не клапоцяцца пра асартымент, пазбаўляючы пакупніка магчымасці выбару.

Само існаванне дзяржаўнага прадпрыемства не залежыць ад атрымання прыбытку. Такім чынам, выкарыстанне імі дзяржаўнай маёмасці — неэфектыўна. Ва ўмовах рыначнай эканомікі прыватныя ўласнікі павінны ўлічваць патрэбы спажыўцоў у мэтах павелічэння колькасці кліентаў і атрымання прыбытку. Яны непасрэдна зацікаўлены ў забеспячэнні павышэння якасці і пашырэння асартыменту тавараў і паслуг.

Аналіз дзейнасці прыватызаваных прадпрыемстваў паказвае, што ў цэлым інфраструктура гандлю, грамадскага харчавання і бытавога абслугоўвання насельніцтва не парушаецца, 5 з 6 прадпрыемстваў захоўваюць ранейшы профіль дзейнасці. Акрамя таго, стварэнне і развіццё канкурэнтнага асяроддзя прыводзіць да паляпшэння якасці абслугоўвання, відаў і аб'ёмаў паслуг. 60 працэнтаў прыватызаваных прадпрыемстваў мяняюць цэны на працягу дня, адлюстроўваючы запыты і магчымасці насельніцтва, рэжым работы становіцца больш зручным для спажыўца, некаторыя прадпрыемствы пераходзяць на кругласутачную работу, без выхадных дзён і без перапынку на абед.

Ёсць прыклады ўстанаўлення прамых сувязей паміж новымі ўласнікамі і вытворцамі прадукцыі, часта гаспадары прыватызаваных прадпрыемстваў напрамую ўкладваюць сродкі ў развіццё перапрацоўчых прадпрыемстваў як у горадзе, так і на вёсцы.

## БЕЛАРУСЬ – СЯРОД ПЕРШЫХ

Беларусь знаходзіцца ў шэрагу вядучых еўрапейскіх дзяржаў па колькасці банкаў на душу насельніцтва. Паводле разлікаў намесніка старшыні праўлення Нацыянальнага банка Беларусі Уладзіміра Сідарава, на адну ўстанову банка ў рэспубліцы прыпадае 3050 чалавек. У Германіі, напрыклад, адзін банк абслугоўвае 1400 чалавек, у Вялікабрытаніі — 2700, у Італіі — больш за 3500 грамадзян.

Сёлета ў Беларусі да ўжо зарэгістраваных фінансавых устаноў прыбавіцца яшчэ як мінімум пяць. Да гэтага трэба дадаць і тэндэнцыю адкрыцця філіялаў замежных банкаў.

Белінфарм.

## ШКАДА, ШТО ВАС ТАМ НЕ БЫЛО

З 8 па 10 лютага бягучага года ў горадзе Туларэ, штат Каліфорнія, адбудзецца выстава сельскагаспадарчага абсталявання: California Farm Eguipment Show. Вось бы нашым калгаснікам ды фермерам трапіць туды! Ды каб яшчэ кішэні былі поўныя даляраў.

■

## Станіслаў ШУШКЕВІЧ:

# "Я зрабіў больш, чым мог, але менш, чым хацеў..."

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

**— Але тады, Станіслаў Станіслававіч, чаму аб усім гэтым Вы гаворыце толькі сёння, чаму маўчалі ў тыя чорныя для Вас дні?**

— Ды таму, што я выхаваны інакш, чым кіраўнік часовай парламенцкай камісіі па барацьбе з карупцыяй Аляксандр Лукашэнка. Мяне ўсё жыццё вучылі: ёсць прэзумпцыя невінаватасці. І калі хтосьці каго-небудзь абвінавачвае, то робіцца гэта дакументальна, факты старанна правяраюцца, а не так, што нехта, маўляў, недзе сказаў. І таму ўступаць у дыскусію аб гэтым будзе, я лічу, ніжэй маёй годнасці. Тады, калі вы памятаеце, я сказаў на сесіі: маім дзецям за мяне чырванець не прыйдзецца. І палічыў, што гэтага дастаткова.

**— Скажыце, калі б машына часу вярнула Вас у тую пару, калі вы былі прарэктарам БДУ, займаліся навукай і не думалі аб палітыцы, што б Вы зрабілі?**

— Пайшоў бы па тым жа шляху. Я многае хацеў зрабіць, але былі рэальныя сітуацыі, выйсці за рамкі якіх аказалася немагчымым. Мая галоўная мэта заключалася ў стварэнні беларускай дзяржаўнасці, у з'яўленні ў Еўропе суверэннай цывілізаванай дзяржавы Беларусь. Мне вельмі хацелася, каб наш парламент быў дэмакратычным, не такім палярызаваным, крыклівым, супярэчлівым, каб ён стаў цэнтрысцкім. Ад гэтага, я ўпэўнены, выйгралі б усе. Але гэта, на жаль, мне не ўдалося. Новы парламент, я ўпэўнены, такім ужо ні за што не будзе.

**— А калі, Вы мяркуеце, адбудуцца новыя выбары?**

— У нас, жа ёсць дакумент — заява аб паскарэнні канстытуцыйнага працэсу, у якой Вярхоўны Савет абяцаў правесці датэрміновыя выбары ў сакавіку гэтага года. А цяпер некаторыя дэпутаты кажуць: заява, маўляў, ні да чаго не абавязвае. Як можна не стрымаць слова, што публічна дадзена ўсяму народу?

**— Вернемся да прычын адклікання Вас з пасады Старшыні. Многія думаюць, што афіцыйная трактоўка — фікцыя. Якія сапраўдныя прычыны?**

— Я не падыходжу большасці гэтага парламента. Яна не хоча будаваць новае грамадства, у большасці сваёй цяперашнія дэпутаты хочуць вярнуцца да старога. Я да гэтага часу не разумею, як мне наогул удалося стаць на чале Вярхоўнага Савета. У камуністычнай большасці ў жніўні 91-га быў фантастычны перапуд, і маё выбранне стала "вялікай выпадковасцю", а не заканамернасцю. Гэта было ўздзеяннем жнівеньскіх падзей, я тады актыўна кантактаваў з лідэрамі саюзных рэспублік, кіраўніцтвам тады яшчэ адзінай краіны, быў, што называецца, на віду, і гэта адыграла сваю ролю.

На гэтай пасадзе мне было нялёгка. На мяне пастаянна аказвалі націск і левыя, і правыя. Апазіцыя БНФ, напрыклад, меркавала, што я больш за ўсё ўшчамляў яе, не даваў слова ля мікрафона і г.д. Хоць я спыняў яе прадстаўнікоў толькі пры прамых абразах. Другі бок, наадварот, абвінавачваў мяне ў патуранні апазіцыі.

**— Раскладка сіл у парламенце ўсім вядома: на адным полюсе большасць, на другім — апазіцыя. У віну Шушкевічу ставяць тое, што ён не стварыў цэнтрысцкай фракцыі, цэнтрысцкай групы.**

— Усе мае спробы "згуртаваць" парламенцкі цэнтр заканчваліся няўдачай. На жаль, у нас не было сур'ёзнай цэнтрысцкай палітычнай структуры. На мяне пастаянна аказвалі націск з усіх бакоў. Я быў гатовы да кампрамісаў ва ўсіх сферах, акрамя адной — страты беларускай дзяржаўнасці. Вельмі перашкаджаў аб'яднанню і непрафесійны статус Вярхоўнага Савета. Мне ўдалося пабываць у парламентах шэрагу дзяржаў, і пасля кожнай такой паездкі я ўсё больш пераконваўся: непрафесійны парламент у Беларусі будзе толькі прыдаткам любой выканаўчай улады, не здольным уздзейнічаць на падзеі. Нельга, каб 346 дэпутатаў кантралявалі работу ўрада. Што датычыць парламенцкіх камісій, то яны пайшлі на повадзе ва ўрада, чакаючы ад яго, мякка кажучы, даброт і пераходзячы ва ўрадавыя структуры. Адбылося аб'яднанне тых, каго ў свой час вылучыла камуністычная партыя. Многія з гэтых людзей сёння ўжо не стаяць на камуністычных пазіцыях, але чыста чалавечае іх аб'яднанне магутнае і непрабівальнае.

Аб'ядноўвацца ў парламенце можна, у маім разуменні, толькі на аснове якіх-небудзь прынцыпаў, а не на асабістым падладжванні. У Прэзідыуме Вярхоўнага Савета вельмі розныя людзі. Мне заўсёды лёгка працавалася з Сасновым, Міцько, Гілевічам, Слямнёвым... Я радаваўся, гледзячы, як напрацоўвае вопыт Козік. Цікавы чалавек Гаркун... Але ж у Прэзідыуме ёсць і Кулічкоў, для якога мэтазгоднасць любога падыходу вызначаецца толькі адным — што наконт гэтага думае ўрад. Прыкладна ў такім жа ключы працаваў і Унучка. Але з усімі, акрамя пана Булахава, які, я лічу, пераступіў парог маралі, у мяне ў цэлым былі нармальныя адносіны. Аднак палітычныя прадузятасці часам наўмысна, часам міжволі адбіваліся на прымаемых рашэннях.

А вазьміце прыклад з маім намеснікам. Колькі я прапаноўваў кандыдатур, не менш як дзесяць, уключаючы і Грыба. І кожная Вярхоўнаму Савету не падыходзіла. Сёння мне ўсё больш здаецца, такія паводзіны большасці былі пралічаны. Яны не хацелі, каб у Шушкевіча з'явілася апора. Як не хацелі, скажам, выбраць на вакантнае месца старшыні камісіі Вярцінскага, разумеючы, што ў мяне паявіцца дадатковая падтрымка ў Прэзідыуме.

**— На думку некаторых дэпутатаў, палітычная драма Станіслава Шушкевіча заключаецца ў тым, што ён ні разу не адстаяў сваю пазіцыю да канца. Вы з гэтым згодны?**

— Успомнім гісторыю з рэферэндумам аб давер'і Вярхоўнаму Савету. Сама фармулёўка пастаўленага БНФ на ўсенароднае галасаванне пытання ўяўляла сабой нагрувашчванне такой колькасці пытанняў, што гэты сімбіёз нельга было наогул выносіць на рэферэндум. І, мне думалася, што, вызначыўшы сакавік 1994 года датай датэрміновых выбараў, парламент знайшоў дастойнае выйсце з узнікшага становішча. Напэўна, думка пра мяне як пра палітыка, які не да канца адстойвае сваю пазіцыю, склалася ў людзей таму, што я задавольваўся толькі тымі прапановамі, якія маглі быць рэальна ўвасобленымі ў жыцці. Калі б я пайшоў далей, то стаў бы падобным да тых людзей, што выходзяць на плошчу. Усе добра ведаюць — любыя радыкальныя перамены Вярхоўны Савет блакіруе.

**— Скажыце, у такой сітуацыі ў Вас не ўзнікала жадання пайсці ў адстаўку самому, што называецца, грукнуўшы дзвярыма?**

— Не, не ўзнікала. І толькі па адной прычыне. Я адчуваў, што, узначальваючы парламент, чамсам усё ж магу процідзейнічаць антырэфарматарскім дзеяннем. Зразумела, да пары. Я і так занадта доўга пратрымаўся. Прызнаюся, было прадчуванне, што знімуць мяне яшчэ на месяц раней, чым гэта здарылася. Большасць у Вярхоўным Савеце вельмі не хацела прыезду ў Мінск Прэзідэнта ЗША, не хацела прызнання Клінтанам Беларусі як самастойнай еўрапейскай дзяржавы. І, можа, адна з самых галоўных вех у маім жыцці — гэта тое, што візіт Клінтана, нягледзячы на ўсе перашкоды, адбыўся, што мы падпісалі важныя дакументы, што ў высокага госця склалася свая думка пра нашу Беларусь.

**— А ці можна з Вашай адстаўкі прагназіраваць лёс Барыса Ельцына і Леаніда Краўчука? Паколькі, як сказаў дэпутат Віктар Ганчар; «Паў Шушкевіч — першы «белавежскі зубр».**

— Ганчар яшчэ малады, і сілы свае ён яўна пераацаніў. Што датычыць мяне, то неправамерна звязваць маё зняцце з пасады з сітуацыяй у Расіі або на Украіне. Я не лічу сябе такой значнай фігурай, каб мая адстаўка ўплывала на становішча спраў прэзідэнта Украіны і тым больш прэзідэнта Расіі. Я меў працяглыя гутаркі і з Леанідам Макаравічам, і з Барысам Мікалаевічам. Праводзіць нейкую аналогію з маёй проста несур'ёзна. У кіруемых імі дзяржавах зусім іншыя суадносіны сіл, зусім іншыя працэсы, іншы баланс эканомікі... Акрамя таго, пакінулі свае пасады Муталібаў, Эльчыбей, нябожчык Гамсахурдзія, якія ў Белавежскай пушчы нічога не падпісвалі.

**— Прозвішчы Гайдар і Шушкевіч у многіх людзей асацыіруюцца з рыначнымі, дэмакратычнымі пераўтварэннямі. Ці можна расцэньваць іх зняцце з пасады як «згортванне рэформ», «наступленне кансерватараў»?**

— Я хацеў бы звярнуць увагу на зусім розныя прычыны адстаўкі. Першы раз Гайдар вымушаны быў пайсці ў адстаўку ў сітуацыі, падобнай на маю. Тады ў Расійскім парламенце ўзялі верх старыя падыходы. Цяпер там іншая сітуацыя. Мне здаецца, тое мноства дакументаў, якія Расія падпісала з міжнароднымі манетарнымі, фінансавымі арганізацыямі, не дазволіць ёй сысці з рыначнага курсу. Таму што ў Расіі разумеюць, што спроба кіраваць старымі метадамі вядзе да "ўкраінізацыі, хаця я вельмі і не люблю гэтага слова.

**— У тэмпах рэформ Беларусь ад Расіі адстала. Ці дапаможа маючае адбыцца аб'яднанне грашовых сістэм зрабіць эканамічны рывок наперад?**

— Сёння на дачы ў мяне госціць стары сябар. Завод, на якім ён працуе, спынены. Я вельмі шчыра жадаю, каб у нашага ўрада што-небудзь атрымалася. Калі так шмат прадпрыемстваў не працуе, не можа дзяржава выйсці з такога становішча за кошт якога-небудзь дагавора ці аб'яднання. Трэба тэрмінова шукаць выйсце з катастрафічнага становішча. А інтэнсіўныя пошукі, на мой погляд, не вядуцца. Нельга, мне думаецца, усё зводзіць да аднаго метаду, назавём яго ўмоўна "дзяржпланаўскім". У мяне нармальная прыродазнаўчая адукацыя, і я даволі нядрэнна знаёмы з матэматыкай, каб ведаць — вельмі многія ўраўненні маюць не адно правільнае рашэнне. Навошта абсалютызаваць толькі свой падыход? Мне здавалася, што Беларусь больш за іншыя краіны была падрыхтавана да рыначнага рэфармавання. Але, відаць, я не ўлічваў, што ментальнасць нашага народа яшчэ больш дэфармавана камуністычным часам.

Я — перакананы прыхільнік рынку. Але калі знойдзецца іншы шлях, вядома ж, без ГУЛАГаў, і будзе станоўчы вынік, то гэта цудоўна. Аднак я вельмі баюся, што, калі мы пачнём кідацца разпораз ад рынку да плана, потым назад, то народ пацерпіць яшчэ больш.

Ні для каго не сакрэт, што з тэмпамі рыначных рэформ у Беларусі ніколі не спяшаліся. І мой прагноз такі: калі пераўтварэнні замарудзяцца, то перспектывы ў нас самыя змрочныя. У згубнасці такога курсу я ўпэўнены. Але супрацьстаяць яму не мог. Я дакладна ведаў, займаючы месца Старшыні, што правоў і рэальных уладных паўнамоцтваў у спікера практычна няма. Памыляюцца тыя, хто думаў, што Шушкевіч не хацеў што-небудзь змяняць. Структура самой улады ў нас такая: калі парламенцкая большасць не захоча нешта прыняць, то ні Шушкевіч, ні Грыб, ні нехта іншы, хто знаходзіцца на гэтай пасадзе, нічога не зможа зрабіць.

**— Як Вы лічыце, Беларусі патрэбны свой прэзідэнт?**

— Ідэальным варыянтам была б мадэль парламенцкай рэспублікі. Аднак бязладнасць, расхлябанасць, невыкананне абавязацельстваў дадзеных народу, магчыма, зможа спыніць выбранне прэзідэнта. Як народны дэпутат, сёння я галасаваў бы за ўстанаўленне інстытута прэзідэнцкай улады.

**— А як Вы думаеце, ці зможа Мечыслаў Іванавіч Грыб знайсці нейкі свой варыянт паскарэння рэформ?**

— Не ведаю. Ён адрозніваецца цудоўнай уласцівасцю адаптавання да любой сітуацыі. Калісьці я быў цвёрда ўпэўнены, што Мечыслаў Іванавіч — прыхільнік беларускай дзяржаўнасці, і таму прапаноўваў яго ў свае намеснікі. На маё здзіўленне, Вярхоўны Савет яго кандыдатуру не зацвердзіў. Паўтаруся, ён чалавек вельмі гібкі і, відаць, у хуткім часе мы ўбачым праяўленне гэтай якасці.

**— Ці збіраецца Станіслаў Шушкевіч вяртацца ў вялікую палітыку?**

— Я вельмі стаміўся. За ўвесь мінулы год я адпачываў усяго 10 дзён. Хачу перадыхнуць. Працуючы ва універсітэце, я ніколі не ўжываў лякарстваў. У Вярхоўным Савеце ў апошні час маёй нормай сталі 2-3 таблеткі аспірыну ў дзень: пакутаваў ад галаўнога болю.

Відаць, выкраю час, каб змяніць абстаноўку і на тыдзень з'ездзіць у Бон, куды мяне даўно запрашалі прачытаць некалькі лекцый. А потым на ваша пытанне адкажа само жыццё.

Уладзімір ГЛОД, (БЕЛІНФАРМ) і

Вячаслаў ЗЯНЬКОВІЧ, ("ІНТЭРФАКС").

■

**ВЫБАР**

# Партыя працы абараняе наёмную працу

□ Лілія ГРЫНЯВЕЦКАЯ, "ЧЗ"

*Беларусь на парозе выбараў. Невядома, калі гэты парог рэспубліцы давядзецца пераступіць. Меркавалі, што ўвесну 1994–га. Сённяшні парламент абяцае — у 1995–м. Аналітыкі даводзяць — не пазней восені 1994–га. Час і кан'юнктура, як заўсёды, распарадзяцца па–свойму. Выбіраць будзем усіх і ўся: парламент, прэзідэнта, магчыма, мясцовыя органы ўлады, для якіх і назвы пакуль няма. Такім чынам, Беларусь на парозе Выбару. Матэрыялы пад такой рубрыкай будуць знаёміць чытача з партыямі, рухамі, саюзамі, аб'яднаннямі: новымі і тымі, якія даўно і галасна заявілі пра сябе. Усе адценні палітычнага спектра ў матэрыялах пад рубрыкай "Выбар" ЧЗ.*

*Сённяшні госць рубрыкі — адзін з лідэраў Партыі працы Беларусі, член савета партыі, старшыня Рэспубліканскага савета прафсаюзаў работнікаў аўтамабільнага і сельскагаспадарчага машынабудавання А.І.БУХВОСТАЎ.*

**— Аляксандр Іванавіч, калі і як узнікла ідэя стварэння такой партыі?**

— Ідэя ўзнікла недзе ў 1990-м годзе. Арганізацыйны камітэт сфарміраваўся вакол прафсаюзаў радыёэлектронікі. Спачатку мы яе назвалі Дэмакратычная партыя працы. А ўжо на з'ездзе перайменавалі. Гэта было 25 лістапада 1993 г.

Палітычны працоўны рух бярэ вытокі ў эканоміцы. Увесь прафсаюзны рух — гэта барацьба работнікаў наёмнай працы супраць работадаўцаў. Як абараніць наёмную працу? У эканамічным плане яе абараняюць прафсаюзы. Але, калі прафсаюзы пераарыентаваліся на новую эканоміку, мы сутыкнуліся з тым, што нейкія пытанні не можам вырашаць эканамічным шляхам. Значыць, мы павінны арыентавацца на пэўныя палітычныя арганізацыі, падтрымліваць іх, даваць палітычныя заказы ці — ствараць сваю партыю. Так узнікла ідэя. Мы якраз тады пачалі абмяркоўваць перспектывы прафсаюзнага руху.

**— Ці можна сказаць, што ідэалогія прафсаюзаў — ідэалогія вашай партыі?**

— Так. Мы нават у Статуце запісалі, што Партыя працы — партыя палітычнай падтрымкі прафсаюзнага руху.

**— Непасрэдна прафсаюзных механізмаў недастаткова, каб абараніць наёмнага работніка?**

— У тых, хто задумваў Партыю працы, дастаткова вопыту і ведаў, як дзейнічаюць прафсаюзы за мяжой, каб разумець: для нас у такой дзяржаве, як Беларусь, палітычная ніша застаецца адкрытай. Нас не задавальняюць эклектыка і дагматызм камуністаў. Але мы не можам арыентавацца і на нацыяналістычныя рухі, таму што для рабочага гэта смерць. Рабочы клас ніколі не быў нацыянальным, і капітал таксама. Наша сацыяльная база вызначана — наёмны работнік. Пытанне ў тым, як яго абараніць. Вопыт апошніх выбараў у Расіі паказвае, што прафсаюзы там прайгралі. Таму што ў гэты пасткамуністычны перыяд прафсаюзы сказалі, што палітыкай яны не будуць займацца. Яны са сваімі статутамі нават не змаглі трапіць у выбарную кампанію.

**— Увогуле кажучы, сацыял-дэмакратыя значна страціла апошнім часам у свеце.**

— Мы зыходзім з таго, што наша партыя новага тыпу, партыя лейбарысцкая. А лейбарысты ў Англіі прыходзілі да ўлады, і нельга забываць, што сацыял-дэмакратычная рабочая партыя Швецыі пабудавала тое грамадства, якое часта называюць шведскім сацыялізмам.

**— Гэта ваш ідэал?**

— Гэта не наш ідэал, але гэты вопыт для нас з'яўляецца каштоўным. Нельга дагматычна прытрымлівацца прыкладаў. Такое можа быць у рэлігіі, а не ў палітыцы.

**— У Швецыі сацыялізм, але ў Швецыі і прыватная форма ўласнасці.**

— Працуючая эканоміка тая, якая будуецца на змешаных формах уласнасці. Вывучаючы эканамічную структуру розных краін, мы бачым, што прамысловыя гіганты такіх, напрыклад, краін, як Францыя, Італія з'яўляюцца дзяржаўнымі акцыянернымі кампаніямі. Усім вядомае шведскае прадпрыемства "Вольва" — твар шведскай дзяржавы — гэта 130 тысяч акцыянераў.

У эканоміцы ідзе пастаянны працэс. Прыходзіць да ўлады партыя левая — пачынаюць усё нацыяналізаваць. Вядома: чым больш нацыяналізаванага ў эканоміцы, тым больш сацыяльнага ў палітыцы. Прыходзяць кансерватары — пачынаецца дэнацыяналізацыя, прыватызацыя. Гэтыя суадносіны нацыяналізацыі і прыватызацыі — пастаянны працэс.

**— Але заўсёды спачатку бывае дробны прыватны ўласнік, які фарміруе будучую мадэль.**

— Дробны прыватны ўласнік ніякай мадэлі сёння не сфарміруе. Гэта утопія. Сярэдні заможны клас, які з'яўляецца асновай грамадства, і пра які ўсе мараць — гэта не прыватныя ўласнікі. Усе формы ўласнасці павінны быць у эканамічнай прасторы. Калі нейкай не хапае — назіраецца дысбаланс.

Не так даўно я быў на кангрэсе металістаў у Швецыі, там быў вызначаны лозунг: "Змагацца за нацыяналізацыю". У нас жа наадварот: "Развальваць буйную прамысловасць". Няёмка слухаць, калі дзяржаўны чалавек кажа, што трактарнага завода нам не трэба, не трэба столькі трактароў, у нас будуць дробныя прадпрыемствы. І як у такім выпадку збіраецца Беларусь увайсці ў ранг еўрапейскіх дзяржаў? За кошт таго, што мы кожны кіркай пачнём апрацоўваць зямлю?

**— Аляксандр Іванавіч, ці шматлікая Партыя працы?**

— Не, яна толькі фарміруецца. Але затое прафсаюзы шматлікія.

■

**100 артыкулаў**

# БЕЛАРУСКІЯ ДАРОГІ

*Анфіса Сямёнаўна ЛЯДНЁВА працуе старшым навуковым супрацоўнікам у аддзеле гісторыі культуры і міжнацыянальных адносін Інстытута гісторыі АН Беларусі. Кандыдат гістарычных навук. Займаецца даследаваннем гісторыі беларускай эміграцыі. Аўтар кнігі і шэрагу артыкулаў па гісторыі міжнароднага супрацоўніцтва.*

Ваенны віхор другой сусветнай вайны адарваў ад родных мясцін сотні тысяч беларусаў, раскідаў іх па розных краінах свету. Прычыны былі самыя розныя. Амаль 380 тысяч жыхароў Беларусі, пераважна моладзь, трапілі на працу ў Нямеччыну прымусова. Дзесяткі тысяч беларусаў апынуліся за мяжой як ваеннапалонныя, раптоўна ператварыўшыся ў здраднікаў Радзімы без надзеі на літасць з боку сталінскага рэжыму. Была і добраахвотная, але вымушаная эміграцыя, у якую падаліся тыя, хто пад час нямецкай акупацыі тэрыторыі Беларусі не паспеў ці не здолеў выехаць на Усход і павінен быў працаваць пад прымусам на акупацыйныя ўлады. У культурна-асветных і школьных установах нямецкай адміністрацыі было занята нямала беларускай інтэлігенцыі. Страх перад пагрозай фізічнага і маральнага праследавання пагнаў і гэтых людзей з роднай краіны, бо праца ў немцаў таксама лічылася здрадай свайму народу і жорстка каралася савецкімі ўладамі, арыштам ці высылкай. У выгнанні аказаліся многія беларускія арганізацыі, установы і вайсковыя фарміраванні, створаныя ў час вайны. Такім чынам, вялікая колькасць людзей была пазбаўлена Бацькаўшчыны.

Пасля сканчэння ваенных дзеянняў уся Нямеччына была падзелена саюзнікамі на 4 зоны акупацыі. Англійская, французская і амерыканская зоны знаходзіліся ў Заходняй Нямеччыне, савецкая зона заўмала ўсходнюю частку краіны, куды трапіла звыш 200 тысяч беларусаў, што працавалі ў сельскай гаспадарцы Усходняй Прусіі. Зразумела, што значная колькасць людзей пажадала вярнуцца на Радзіму. На 1 сакавіка 1946 г. рэпатрыіравалі больш як 520 тысяч беларусаў. Ваеннапалонныя ў Заходняй Нямеччыне і Аўстрыі былі вызвалены ў красавіку 1945 г. і з вязняў-беларусаў толькі нязначная колькасць засталася на Захадзе. У значнай меры гэтаму садзейнічаў і Указ Вярхоўнага Савета СССР "Аб амністыі ў сувязі з перамогай над гітлераўскай Германіяй" (ліпень 1945 г.). З прымусова вывезеных на працу беларусаў у выніку смерці ці нежадання назад не вярнулася звыш 260 тысяч чалавек. Адбыўся і прымусовы зварот савецкіх грамадзян у СССР, які быў спынены толькі ў 1947 г. Каб пазбегнуць яго, шмат хто з беларусаў запісваўся палякам, шукаў сховішча ў чужых лагерах, нават мяняў сваю рэлігію. Некаторыя канчалі самагубствам, калечылі сябе. Гэта быў трагічны час для беларускіх эмігрантаў. У выніку сотні тысяч беларусаў хто свядома, хто сілаю фактаў сталі выгнаннікамі, састаўной часткай трэцяй пасля ваеннай хвалі эміграцыі.

Размяркоўваліся ўцекачы па лагерах для перамешчаных асоб (ДП), якія былі створаны ва ўсіх зонах Заходняй Нямеччыны. Справамі ДП спачатку займалася міжнародная арганізацыя, спачатку ААН па справах уцекачоў і бежанцаў (ЮНРРА) (1943-1947 гг.), потым ІРО (1947-1951 гг.). Лагеры напачатку былі міжнацыянальнымі. Усе ДП павінны былі зарэгістравацца па сваёй нацыянальнасці. З усіх нацый ЮНРРА не прызнала за самастойную толькі адну — беларускую. Жыхароў з Заходняй Беларусі запісвалі палякамі, з Усходняй — рускімі. Гэтая акалічнасць была значнай перашкодай, калі ЮНРРА дазволіла ствараць лагеры па нацыянальнаму прынцыпу. Да канца 1947 г. беларуская эміграцыя ў Нямеччыне юрыдычна і фактычна падвяргалася дыскрымінацыі. У той час, калі БССР выступіла як краіна—заснавальніца ААН і прызнавалася сусветным супольніцтвам за незалежную дзяржаву, у Нямеччыне акупацыйныя ўлады не лічылі беларусаў за самастойную нацыю і адмаўлялі ім у правах, якімі карысталіся іншыя народы. Таму нацыянальна-арганізацыйная дзейнасць беларускіх уцекачоў, што апынуліся ў чужых асяродках, напачатку мела амаль нелегальны характар і не магла ахапіць сваім уздзеяннем усю беларускую грамаду. Асноўная эміграцыйная маса заставалася пасіўнай, што надалей прывяло да канчатковай страты сувязей многіх беларусаў са сваім асяроддзем.

Пасля ваенная эміграцыйная хваля вызначалася большай колькасцю свядомай інтэлігенцыі, святароў, якія не адракліся ад сваёй Бацькаўшчыны, захавалі беларускасць і надзею на нацыянальнае адраджэнне. Менавіта свядомая частка беларусаў-эмігрантаў здолела нацыянальна арганізавацца, наладзіць грамадска-культурнае і рэлігійнае жыццё.

Першая беларуская група сабралася ў амерыканскай акупацыйнай зоне ў лагеры Рэгенсбург. Тут 15 жніўня 1945 г. на з'ездзе беларускіх нацыянальных дзеячаў была закладзена першая ў Нямеччыне нацыянальна-палітычная арганізацыя — Беларускі нацыянальны цэнтр. У англійскай і французскай акупацыйных зонах таксама ствараліся нацыянальныя арганізацыі. У чэрвені 1947 г. з'ездам беларусаў французскай зоны было заснавана Беларускае дабрадзейнае згуртаванне, а ў сакавіку пачаў працу Беларускі нацыянальны камітэт. Беларускі дапамогавы камітэт дзейнічаў у англійскай зоне, але беларусы тут былі найменш арганізаваныя і найбольш расцярушаны па чужых лагерах. Тут таксама жыла малая колькасць інтэлігенцыі, да таго ж і пасіўнай.

У лютым 1946 г. заснаваўся Беларускі цэнтральны дапамогавы камітэт у Нямеччыне (БЦДК) як цэнтр прадстаўніцтва беларускай эміграцыі ў гэтай краіне. БЦДК меў перасяленскі, культурна-асветны, прэсавы, праўнаарганізацыйны аддзелы. Пры ім была закладзена цэнтральная картатэка беларускай эміграцыі і цэнтральны архіў беларускага эміграцыйнага друку. У 1948 г.БЦДК пачаў называцца "Беларускі нацыянальны камітэт (БНК). Цэнтральнае прадстаўніцтва беларускай эміграцыі ў Нямеччыне". БНК з самага пачатку праявіў даволі актыўную дзейнасць і арганізацыйную мабільнасць. Ён выступіў ініцыятарам і кіраўніком грамадскіх і палітычных акцый, што наладжваліся сярод беларускай грамады. Спярша дзейнасць накіроўвалася выключна на вызваленне беларусаў з іншанацыянальных лагераў і стварэнне беларускіх. Вялікія беларускія лагеры з'явіліся ў Ватэнштэце, Віндзішбэргердорфе, Рэгенсбургу, Міхельсдорфе. Буйныя беларускія асяродкі заснаваліся ў лагерах Дальменгорсце, Мітэнвальдзе, Гановеры, а Маервіку, Амбергу, Фельдмохінгу, Аўгсбургу, Шляйсхайме, Марбургу, Штэтэнгофене і іншых месцах — беларускія групы.

Беларусы стараліся так уладкаваць свае жыццё, каб яно нагадвала Радзіму. Свой лагер яны называлі беларускай вёскай на чужыне. Каля баракаў засаджваліся агароды, многія сем'і разводзілі свойскіх жывёл, курэй.

Усе беларускія арганізацыі і камітэты ў Нямеччыне інфармавалі кіраўніцтва ЮНРРА аб становішчы беларусаў, іх бытавых умовах і патрэбах, дамагаліся права мець свайго прадстаўніка пры ЮНРРА, як іншыя нацыянальнасці. Адначасова пачынае разгортвацца грамадская і культурная дзейнасць. Было вельмі важна захаваць нацыянальнае аблічча, не страціць духоўнай сувязі з Бацькаўшчынай. У многіх лагерах утвараліся праваслаўныя і каталіцкія прыходы. У 1947 г. пачаў дзейнічаць Ватыканскі беларускі эміграцыйны камітэт. Велізарную ролю і значэнне ў грамадскім жыцці беларускіх выгнаннікаў адыграла прэса, друкаванае слова. Спачатку з дазволу мясцовых улад ЮНРРА ў лагерах Ватэнштэце і Рэгенсбургу выходзілі прымітыўнага выгляду рататаларныя выданні. Яны абслугоўвалі жыхароў аднаго ці некалькіх лагераў і маглі закранаць практычныя справы і патрэбы лагернага жыцця, і не мелі права каменціраваць палітычныя і нацыянальныя з'явы, што магло б не спадабацца савецкаму кіраўніцтву выступаць супраць Саветаў або праводзімай рэпатрыяцыі. Лагерная прэса выдавалася за кошт саміх эмігрантаў. Абмежаванні, уведзеныя акупацыйнымі ўладамі Нямеччыны абыходзіліся ў падпольных выданнях, сярод якіх сваім высокім тэарэтычным і ідэйна-палітычным узроўнем вызначаўся рататарны часопіс "Рух". Падрыхтоўку тэкстаў і рэдагаванне матэрыялаў часопіса ажыццяўляў С.Станкевіч. "Рух" выходзіў падпольна ў Ватэнштэце, Рэгенсбургу і Астэргофене з 1946 па 1948 г., усяго выдадзена 5 нумароў. У задачы часопіса ўваходзіла выпрацоўка беларускай нацыянальна-палітычнай лініі і тактыкі ў палітычнай дзейнасці пры новых абставінах. Адным з найбольш актыўных супрацоўнікаў часопіса быў А.Адамовіч, які прыдумаў назву часопісу.

У другой палове 1947 г. амерыканскія акупацыйныя ўлады выдалі ліцэнзію на друкаванне часопіса "Сакавік" і газеты "Бацькаўшчына". Справа беларускага друку афіцыйна зрушыла з месца. Трэба прызнаць, што беларуская прэса, улічваючы і рататаларныя выданні, была даволі сціплай у параўнанні з палітычнай і грамадскай дзейнасцю.

Выхад у свет газеты "Бацькаўшчына" расцэньваўся як важнейшае нацыянальнае дасягненне. Некаторыя суродзічы называлі яе эміграцкай "Нашай нівай", адзначаючы гэтым выключную ролю апошняй і значэнне для беларускага вызваленчага руху. Вядомы дзеяч беларускай эміграцыі Янка Запруднік так выказаўся пра "Бацькаўшчыну": "Адзіны яе загаловак надаў ёй гаварыць за ўсё". Газета згуртавала вакол сябе выдатныя журналісцкія, навуковыя і літаратурныя сілы, што вызначала яе высокі прафесійны ўзровень. Газета вызначыла ў сваёй працы прынцыпы вольнасці і незалежнасці, узяўшы за ідэалагічную платформу ідэі 25 сакавіка. Першым рэдактарам быў А.Адамовіч. Для газеты таксама працавалі Б.Рагуля, Ю.Віцьбіч, С.Кабыш, П.Крушына, А.Салавей, П.Татарыновіч, К.Мерляк, Г.Паланевіч, М.Панькоў, В.Тумаш, Я.Станкевіч, М.Навумовіч, П.Сыч і іншыя вядомыя беларусы.

Газета адыграла асаблівую ролю ў галіне дакументацыі беларускага нацыянальнага жыцця і дзейнасці ўсіх асяроддзяў беларускай эміграцыі, змяшчаючы адпаведныя артыкулы. Яна стала і багатай крыніцай беларусазнаўства, прадстаўляла беларускую эміграцыйную журналістыку і нацыянальна-вызваленчыя імкненні. Амаль чацвёртая частка тыражу разыходзілася па бібліятэках, універсітэтах, рэдакцыях, дыпламатычных прадстаўніцтвах, дзяржаўных установах. Такім чынам, Захад атрымліваў інфармацыю пра Беларусь, яе народ і імкненні да сапраўднай незалежнасці.

Адной з выдатных з'яў эміграцкага жыцця ў Нямеччыне можна лічыць існаванне беларускай школы. Беларускія арганізацыі вызначалі выхаванне маладога пакалення як сваю важнейшую нацыянальна-грамадскую задачу. Ставілася мэта, каб усюды, дзе арганізуецца лагер, ці самастойная беларуская група, у першую чаргу пачынала працаваць школа. Неабходна было як мага хутчэй даць дзецям патрэбныя веды і нацыянальна-грамадскае выхаванне, каб яны змаглі, дзе б ні апынуліся, захаваць мову, культуру, традыцыі, родную спадчыну. Для падтрымкі школьнай справы ствараліся школьныя камітэты. Пачатковыя школы працавалі ў лагерах Мітэнвальдзе, Астэргофене, Віндзішбэргердорфе, Фельдмохінгу, Ватэнштэце, Рэгенсбургу, Зэедорфе, Гановеры і інш. У вялікіх беларускіх лагерах былі адкрыты гімназіі. Гімназія імя Я.Купалы існавала на працягу пяці гадоў і вучыла моладзь у чатырох лагерах ДП — Рэгенсбургу (1945 г.), Міхельсдорфе (1946-1948), Віндзішбэргердорфе (1949), Розенгайме (1950 г.). Другая беларуская гімназія была арганізавана ў 1947 г. у Астэргофене. Яна абслугоўвала толькі гэты лагер, мела 11 настаўнікаў і 84 вучні. Яшчэ адна гімназія працавала з 1945 г. у ў Ватэнштэце, куды прыязджалі вучні з лагераў Гослар, Браўшвейга. Для іх пры

АДАМ І ЕВА

# Бясплодны шлюб

□ Наталля СТРАЛКОВА, "ЧЗ"

*За апошнія дзесяць год у нас налічвалася прыкладна 90 тысяч бясплодных шлюбаў. Спецыялісты сцвярджаюць, што ў рэспубліцы існуюць усе ўмовы для таго, каб колькасць падобных сем'яў павялічвалася.*

## "ЗАДАВАЛЬНЕННЕ – ДОБРА, ДЗЕЦІ – ЛЕПШ",

— гаворыць загадчык рэспубліканскага цэнтра па праблемах сям'і і шлюбу Лілія Аляксандраўна Жукоўская. Сёння яна — госць нашай рубрыкі.

**— Што такое бясплоднасць? Наколькі актуальнай з'яўляецца сёння гэта праблема?**

— Каб мы не блыталіся і адразу акрэслілі тэму размовы, удакладню, што існуюць такія паняцці, як бяздзетнасць і бясплоднасць. Бяздзетнасць — гэта адсутнасць дзяцей (у выніку, скажам, выкідыша), бясплоднасць — адсутнасць цяжарнасці. Калі муж і жонка жадаюць мець дзіця, але пры рэгулярным палавым жыцці на працягу года цяжарнасць не наступіла, — пара лічыцца бясплоднай, яе неабходна абследаваць. Раней, каб паставіць партнёрам такі "дыягназ", чакалі тры гады, зараз, як бачыце, тэрмін скараціўся. Лічыцца, што пры нармальным палавым жыцці ў 75 працэнтаў сямейных пар цяжарнасць наступае на працягу года. Калі ж не — раю адразу ж звярнуцца да спецыялістаў, не адкладваючы візіт да святога нігды. Чым больш "зацягнута" бясплоднасць — тым цяжэй яна паддаецца лячэнню, тым менш шанцаў вы пакідаеце самі сабе. Звычайна жанчына чакае да той пары, пакуль у сям'і не пачынаюць узнікаць на гэтай падставе канфліктныя сітуацыі, а яе саму ўжо ўсяляк абражаюць і муж, і свякруха... І куды яна звяртаецца? Да ўрача-спецыяліста? Не. Жадаючы хуткага, ледзь ці не імгненнага эфекту (гэта пасля некалькіх год бяздзеяння!), яна кідаецца або да знаёмых медыкаў, якія займаюцца зусім іншымі захворваннямі, або да экстрасенсаў. Апошнія рэкамендуюць якую-небудзь лухту накшталт настою кветак герані, які нібыта спрыяе таму, каб зацяжарыць. (Сама, дарэчы, сустракала ў газеце падобныя рэкамендацыі). І жанчына старанна гатуе гэтыя настоі, п'е іх — ды тут што заўгодна вып'еш! А час ідзе. У нас жа ніхто не нясе адказнасці за няправільнае медыцынскае ўмяшанне, столькі лекараў развялося... Або са сваёй праблемай жанчына звяртаецца да гінеколага. Гэта таксама не зусім тое, што трэба. Гінеколаг не можа дыягнаставаць бясплоднасць, яе выяўляюць толькі з дапамогай спецыяльных абследаванняў і на спецыяльнай апаратуры.

Канстатаваць, нармальны ці ненармальны стан трубы, можна толькі пры дапамозе кантрастнага рэчыва, якое ўводзіцца ў арганізм жанчыны і заклікана як бы паўтарыць ход сперматазоіда. Урач-спецыяліст у гэты момант робіць здымак. Калі падобнымі даследаваннямі займаюцца "па блату" добрыя знаёмыя (няхай сабе з медыцынскім дыпломам), але іншай спецыялізацыі, здымак можа атрымацца няякасным. А паўтараць яго дазваляецца толькі праз паўгода...

**— Але ж бывае, што ў жанчыны ўсё ў парадку, а цяжарнасць не настае.**

— Тады ў брушную поласць уводзяць аптычны прыбор — патрабуецца дадатковае ўдакладненне прычын бясплоднасці... Існуе і "псіхалагічная" бясплоднасць. Калі, напрыклад, жанчына спадзявалася адразу зацяжарыць, а не атрымалася, і яна ўявіла сябе бясплоднай, настроілася на гэта. І вось у такім стане яна звяртаецца не да нас, а да ўчастковага гінеколага. Пасля агляду той выносіць "прысуд": у вас запаленчы працэс, таму і зацяжарыць не можаце. А прычына зусім не ў гэтым. А ў тым, што бясплодным... быў муж. Таму абследавацца і лячыцца муж і жонка павінны разам на працягу года. Калі лячэнне перапынілася па нейкай прычыне, яго трэба пачынаць спачатку. Праз год, калі правільнае кансерватыўнае лячэнне не дапамагло, яго спыняюць. Далей можна карыстацца хірургічным метадам або метадам штучнага апладнення, можна таксама ўсынавіць дзіця. Галоўнае, дакладна і ясна растлумачыць пацыентам з самага пачатку, на якую колькасць часу і эфектыўнасць лячэння яны могуць разлічваць. Бясплодныя пары часта распадаюцца, але адсутнасць дзяцей — гэта не прычына, а повад для разводу. І нават нараджэнне (у рэшце рэшт!) доўгачаканага дзіцяці не выратуе сям'ю, калі ў ёй з самага пачатку не было кахання і ўзаемаразумення. Муж не хоча прызнацца сабе, што, пакуль у сям'і не нарадзілася дзіця, ён сам вельмі доўга знаходзіўся ў яго ролі. Пра яго клапаціліся, яго кармілі, абмывалі, укладвалі спаць. А тут з'явіўся маленькі чалавечак, і ўся ўвага перайшла да яго...

Калі шчыра... Многім сем'ям, з якімі прыходзілася сутыкацца, зусім не патрэбна было дзіця наогул. Адны хацелі нарадзіць яго, каб "прывязаць" мужа, умацаваць свае правы на яго... Другім не хапала "аднаго чалавека" для атрымання новай кватэры... Трэція жадалі самасцвярджэння, рэабілітацыі ў вачах родных. Я не маю права так думаць, але часам здавалася, што Бог правільна абдзяліў падобных жанчын шчасцем мацярынства — яны яго ўсё роўна не заслугоўваюць. Каб быць Маці, трэба гэтага хацець...

**— Бясплодны шлюбу большай часткі грамадства асацыіруецца са слабым полам. Але, відаць, не меншая доля «віны» ляжыць і на мужчынах?**

— Безумоўна. Да таго ж, мужчынскае бясплоддзе дрэнна лечыцца. Менавіта таму, што яно гэтак жа дрэнна вывучана. Хлопчыкамі ў нас увогуле вельмі доўга ніхто не займаўся. Для дзяўчынак існуюць гінеколагі: "дзіцячыя", "падлеткавыя" і дарослыя. Для хлопчыкаў — уролагі, якія займаюцца яшчэ процьмай розных захворванняў, не звязаных з узнаўленнем патомства. Існуе шэраг прыроджаных прычын мужчынскага бясплоддзя, якіх можна было пазбавіцца яшчэ ў дзяцінстве метадам аперацыйнага ўмяшання, але і мама, і ўрачы-дылетанты аднесліся да першапачатковых праяў будучага захворвання з характэрнай для нас легкадумнасцю.

**— Пры бясплоднасці мужа здаровая жанчына можа карыстацца спермай донара. Ці ўзнікаюць у сувязі з гэтым праблемы маральнага плана?**

— На жаль, іх нямала. Мужчыны ўвогуле цяжка "перажываюць" свой дыягназ. Яны ніяк не могуць паверыць у гэта канчаткова і спяшаюцца правесці які-небудзь "эксперымент" (безумоўна, не на жонцы), каб даказаць адваротнае. З такімі мужчынамі вельмі цяжка жыць, яны ўсё роўна працягваюць абвінавачваць ва ўсім сваіх жонак. Адзін наш пацыент змяніў трох, прычым кожную абвінавачваў у бясплоднасці, хоць цудоўна ведаў, што вінаваты на самай справе сам... Усім падобным парам я абавязана раіць донарства. І ўжо сям'я вырашае сама, як да гэтага адносіцца. Ва ўсякім разе, штучнае апладненне адбываецца толькі тады, калі на гэта ёсць згода абодвух — мужа і жонкі. Не адкрыю вялікага сакрэту, калі скажу, што некаторыя жанчыны цудоўна вырашаюць гэту праблему самастойна, знайшоўшы "донара" без нашай дапамогі.

**— Давайце спынімся больш падрабязна на прычынах... Чаму адбываецца так, што прырода пазбаўляе жанчыну права выканаць сваё галоўнае прызначэнне?**

— Прычын бясплоднасці многа. Гэта перанесеныя і дрэнна залечаныя запаленчыя працэсы палавых органаў, напрыклад, ганарэя. Гэта аборты і "вакуумы" (любыя маніпуляцыі ўнутры маткі прыводзяць да запаленняў). Гэта частыя захворванні (напрыклад, ангіна) у дзяцінстве, аперацыйныя ўмяшанні ў брушную поласць, туберкулёз, парушэнні менструальнага цыкла. Бясплоднасць можа ўзнікнуць у жанчыны як вынік вельмі актыўнага "пахудзення", вялікіх нагрузак, курэння, — словам, у выніку шкоды, якую яна наносіць сабе сама. Прычынай бясплоднасці можа стаць не толькі венерычная хвароба, а нават звычайны, "вялы" запаленчы працэс, які ўзнікае ў выніку частай змены палавых партнёраў. Калі ты крыху клапоцішся пра будучае — карыстайся, калі ласка, прэзерватывам. Не думай толькі аб задавальненні — яно можа надта дорага каштаваць. Я сутыкаюся з гэтым кожны дзень, калі бачу слёзы прыгожых жанчын, у якіх ёсць сёння ўсё — дом, машына, грошы, мужчыны — а дзяцей няма. Канешне, 20-30 працэнтаў жанчын могуць нарадзіць і пасля першага аборта, але ўсё роўна трапляюць у групу рызыкі, з іх цяжарнасцямі заўсёды шмат праблем.

Здавалася б, ну не хочаш ты пакуль што заводзіць дзяцей — звярніся ў кабінет па кантрацэпцыі (у нас ён ёсць, кожны дзень працуе і можна запісацца на прыём), даведайся, як правільна засцерагацца, каб не зацяжарыць. Дык не. Яны амаль усе карыстаюцца гэтым дзедаўскім, варварскім метадам — "перарваным" палавым актам! Між тым, прыродай закладзена так, што гэты фізіялагічны працэс павінен мець пачатак і канец. Прыпыненне яго — дзеянне ненатуральнае: мужчына раздражняецца, жанчына не атрымлівае спермы, якая так дабратворна ўплывае на яе палавыя функцыі...

А пры першым падазрэнні на цяжарнасць яны ўжо спяшаюцца прымаць прэпараты... А прэпаратаў — такіх, як трэба — у нас няма. Яны і на Захадзе страшэнна дарагія, а тут... Потым — аборт. Не думаючы ні пра якія вынікі, дзяўчынка кладзецца на гінекалагічнае крэсла з адзіным жаданнем: хутчэй пазбавіцца ад гэтай мярзоты, каб ніхто не даведаўся. Ва ўсім свеце сродкі кантрацэпцыі танныя і даступныя, а за аборты трэба плаціць. У нас — наадварот. Мы не даём жанчынам магчымасці засцерагацца, папярэджваць цяжарнасць, затое спакойна дазваляем забіваць дзяцей ва ўлонні маці. У бліжэйшы час аборты павінны стаць платнымі (не трэба клапаціцца пра матэрыяльны дабрабыт пацыенткі, не той гэта выпадак), а кантрацэптывы — бясплатнымі. Бо хутка няма каму будзе раджаць — з нашым няспынным ростам колькасці абортаў і венерычных захворванняў.

**— Ці вылечваецца бясплоднасць?**

— Гэта вельмі доўгі, марудны, цяжкі і не заўсёды эфектыўны працэс. Ён патрабуе часу, цярпення, настойлівасці і жадання. Але і пры выкананні гэтых умоў вылечваюцца поўнасцю 22-23 працэнты хворых.

15-20 працэнтаў пар, уступаючых у шлюб, сёння з'яўляюцца бясплоднымі, і гэта лічба будзе расці, пакуль мы не навучымся самі думаць пра сваё здароўе і дабрабыт.

**— Дзякуй за размову, Лілія Аляксандраўна. Нагадайце нашым чытачам ваш адрас і нумар тэлефона, па якому можна запісацца на прыём па праблемах інтымнага характару.**

— Калі ласка! Мінск, вуліца Арлоўская, 66. Тэлефон 37-16-26.

♥ ♥ ♥ ♥ ♥ ♥ ♥ ♥ ♥ ♥ ♥ ♥ ♥ ♥ ♥ ♥ ♥ ♥ ♥ ♥ ♥

## Спытайце ў Наташы

*"Мяне завуць Таццяна. Мне 15 год. У мяне амаль усё добра — вялікія планы на будучыню, ёсць сябар... Але справа ў тым, што я... не знаёма з майстэрствам пацалунка, не ведаю, як паводзіць сябе, калі гэта адбываецца ўпершыню. Вы падумаеце: што за недаткнёная такая? Дзяўчаты ў яе ўзросце маюць ужо багаты вопыт, а некаторыя нават і дзяцей, а яна... Мне вельмі сорамна вам пісаць, але болей няма ў каго запытаць — будуць смяяцца. Майму сябру 17 год. Усе лічаць, што я з ім знаходжуся ў вельмі цесных адносінах, а гэта не так. І ўсё ж недалёкі той час, калі ён сапраўды захоча мяне пацалаваць.*

*Дапамажыце, калі ласка.*

Таццяна."

## Першы пацалунак

Першы пацалунак не павінен быць ні занадта агрэсіўным, ні празмерна цнатлівым. Ён — працяг вашых пачуццяў, яшчэ адна прыступка да збліжэння.

Калі вы адчуваеце, што партнёр збіраецца вас пацалаваць, не думайце пра тое, ЯК трэба сябе паводзіць, не адцягвайце ўвагу на другаснае, засяродзьце яе на аб'екце свайго кахання. У момант пацалунка не варта глядзець партнёру ў вочы — апусціце вейкі. Не трэба таксама заціскаць вусны — яны павінны быць напаўраскрытымі, мяккімі і пяшчотнымі. Вусны ў дадзеным выпадку — "праваднік" вашага пачуцця, і калі вы не сказалі аб ім словамі, то "скажаце" праз пацалунак. Не старайцеся браць на сябе лідзіруючую ролю. Актыўны бок — мужчына, ён "вядзе" гульню. Вы — бок пасіўны, але ўпаўне можаце карэкціраваць (тактоўна і пяшчотна) моманты, якія вам не даспадобы.

Пацалунак — гэта раздражненне пэўных частак цела вуснамі (павярхоўны пацалунак) ці вуснамі і языком (глыбокі пацалунак). Ён з'яўляецца не толькі праяўленнем пяшчоты, але і адной з форм любоўнай ласкі, якая выклікае палавое ўзбуджэнне. Найбольш распаўсюджаным лічыцца пацалунак пры дапамозе унутранай часткі вуснаў, з папераменным асцярожным "захопліваннем" вуснаў партнёра. Пацалункі могуць быць рознымі па сіле і працяглласці, яны могуць быць вытанчана чуллівымі, страснымі і нават з праявай некаторай агрэсіўнасці (гэта залежыць ад вашага тэмпераменту). Найбольш інтымным сексолагі лічаць "языковы" пацалунак, калі ваш язык злёгку кранае вусны партнёра і ўсё, што знаходзіцца далей за імі. У пацалунках (як вуснаў, так і іншых частак цела) важна праяўляць пачуццё меры і мець згоду абодвух партнёраў.

...А ўвогуле да любога працэсу трэба падыходзіць творча.

■

## «НОТНЫ АРКУШ»

N 2 (237)

*Вядучы — Вітаўт МАРТЫНЕНКА*

Тэл. 68-29-26

### *Фанатэка*

### "АНІСА"
### "ДОБРЫЯ ЛЮДЗІ, ПУСЦІЦЕ ПАГРЭЦЦА"
### Зніч, 1993

Чарговы аб'ект увагі нашай "Фанатэкі" — яшчэ адна кампакт-касета наваполацкага тэатра-студыі "Зніч". Гэтым разам — сольны альбом Сержука Анішчанкі ці, папросту, Анісы.

Спярша — аб прыемным. Адразу ўражвае вокладка альбома: на тытульнай бачыне — каляровы фотаздымак ствaральнікаў музыкі, на якім каліграфічным шрыфтам пазначана назва праграмы. Акрамя таго, вокладка мае змястоўную разгортку, дзе па-за зыходнымі звесткамі друкуюцца фотаздымкі самога Сержука, а таксама ягонай жонкі з дзвюма дочкамі (відаць, апошнім і прысвечаны альбом).

Што да стваральнікаў музыкі, дык іх двое. Першы — гэта сам Аніса (вакал). Другі — Сяргей Касцючэнка (сінтэзатары). Калі гаварыць пра тэксты, дык яны належаць шырокаму колу аўтараў. Тут і тыя, хто спецыяльна піша для Анісы (Васіль Здановіч, Васіль Храмцоў і інш.), і прафесійныя паэты, творы якіх упадабаў выканаўца (Генадзь Бураўкін, напрыклад), і творы з рэпертуару іншых братоў па сцэне (С.Сокалаў-Воюш, Алег Паўлёнак).

Усяго ў альбом увайшло адзінаццаць песень. Трэба сказаць, асоба выканаўцы стварыла з іх даволі цэльную праграму. Але ўсё ж крыніцы твораў настолькі разнастайныя, што ўвесь альбом выклікае супярэчлівыя думкі.

Дапусцім, "Стары дом" — хоць і вядомы супер-гіт "Рокаша", але Аніса мае на яго права, бо менавіта ў гэтым гурце яго ўпершыню пачула Беларусь. Дапусцім, і "Аксамітны вечар" С.Сокалава-Воюша пасуе сюды, як знак павагі да духоўнага настаўніка Анісы. А вось папулярная народная "Беларусачка" пасля пяшчотнага выканання яе Данчыкам выглядае тут недарэчна. Зрэшты, песню гэтую сапраўды спяваюць цяпер усе. Таму яшчэ больш трэба паклапаціцца, каб артыстычнае выкананне было адметным. У Анісы ж адметнасць праявілася толькі ў тым, што "косы русыя" сталі "кудрамі русымі" (лепей бы ўжо "русымі кучаравінкамі"), а "сяброўка" ператварылася ў "дарагую падругу маю".

Калі не ведаць Данчыка, не чуць С.Сокалава-Воюша, не быць асвядомленым у рокерскім мінулым Анісы або цяпер свядома аглядаць толькі ягоны сучасны рэпертуар, дык тут ужо ён выглядае і цэльным, і адметным. Песні "Паручнік Стах", "Буйны вецер", "Паваражы", "Самотны вальс", "Дамавік" з поспехам маглі б замяніць духоўны пажытак тых, хто ўжо імкнецца да беларускага адраджэння, але яшчэ не можа вырвацца з-пад уплыву інтэнсіўна прапагандуемай расійскай песеннай "журавінкі". Цудоўны адпачынак за глячыкам крупніку ў беларускім кабарэ гарантавалі б і песні "Крапае дождж", "Падары мне", "Дарога дадому". З гэтымі песнямі можна раздзяліць і самоту, і настальгію, і суцішыць хваляванні душы.

Альбом, дарэчы, з'яўляецца не проста зборам песень. Камбінацыі так званых канкрэтных гукаў (шум горада, галасы прыроды) звязваюць яго ў адзіны арганізм. І гэта таксама можна аднесці да вартасцяў касетнай праграмы.

■

### *Ліставанне*

**К.Адрынчыку (г.Магілёў):** Бадай, замест таго, каб скардзіцца на актыўнасць іншых, лепей бы вам самім узяцца за пяро ды напісаць пра цікавыя падзеі ў сферы маладзёжнай культуры, якія адбываюцца ў вашым рэгіёне. Усё, што мае на мэце духоўны дабрабыт беларускага народа, знойдзе адлюстраванне на нашых старонках. Вы ж, пэўна, прыкмячалі, што большасць рэгіянальных рэпартажаў з таго ж Наваполацка, Гародні, Гомеля і інш. мы атрымлівалі ад нашых пазаштатных аўтараў незалежна, хто яны — студэнты, педагогі, звычайныя аматары музыкі ці прафесійныя журналісты.

**М.Карніловічу (г.Брэст):** Зразумела, пра фестываль "Берасцейскі рок-кірмаш" мы ведаем, і ў 1992 годзе, калі традыцыя толькі пачыналася, рабілі адтуль рэпартажы. Летась фестываль прамільгнуў неяк нечакана, а няўвага прэсы да яго — хутчэй на сумленні арганізатараў. Калі сёлета нас запросяць, дык будзе, натуральна, і рэпартаж.

**Ф.Ермаковіч (г.п.Антопаль):** Наўрад ці варта з чыіхсьці слоў (хай сабе і блізкага чалавека) рабіць такія высновы пра чалавека, з якім вы не сустракаліся і не размаўлялі. Людзі любяць патрындзець пра вядомых людзей, але назваць папулярнага спевака алкаголікам можа хіба той, хто піў з ім або цягнуў на сваёй спіне дадому. З маіх асабістых уражанняў чалавек, пра якога вы пішаце, — узор цвярозасці і здаровага спосабу жыцця.

■

### *Гіт-парад*

# Дарога, што выведзе з пекла

*Натуральна, такой дарогай з'яўляецца "Дарога ў рай", з якой "Ален" стаў лідэрам 27-га этапа беларускага гіт-парада "ЧЗ-Liberty", што выйшаў у эфір заўчора, 30 студзеня на кароткіх радыёхвалях.*

На выніку гіт-парада, на з'яўленне ў нашай дзесятцы шэрагу новых імёнаў (Лана Медзіч, Едрусь Акулін ды іншыя) вельмі моцна паўплывала шматразовае павелічэнне тыражу "Чырвонай змены": болей людзей стала бачыць выніковыя спісы гіт-парада, а значыць і болей слухаць штомесячныя музычныя выпускі на хвалях беларускай праграмы радыё "Свабода" з Мюнхену. Зразумела, павялічылася і наша пошта.

Вось што піша, напрыклад, Мікола Шылко з вёскі Сіняўка Клецкага раёна:"Упершыню я чуў Едруся Акуліна гады 3—4 таму, калі праездам быў у Гомелі і глядзеў нейкую тамтэйшую тэлеперадачу. Потым чытаў, што бард пераехаў у Мінск, неаднаразова чуў яго па рэспубліканскім радыё, чытаў пра ягоную перамогу на рэспубліканскім конкурсе бардаў. У сувязі з усім гэтым здзіўляюся, чаму не было Акуліна ў гіт-дзесятцы радыё "Свабода"? Таму і вырашыў сабраць сяброў ды напісаць вам".

Ну што ж, правільна зрабілі: клопат гэты не змарнаваўся, бо Акулін, па-першае, апынуўся ў дзесятцы і, па-другое, не на апошнім месцы.

Сярод рок-фанатаў выдзелім ліст Алеся Грыніцкага з Лоева:"Я вельмі даўні прыхільнік айчыннай рок-музыкі, люблю "Мрою", "Дзіду", "Рокіс". Музыка ў нас класная, але вельмі важная ейная праблема ў саміх слухачах: надта мала ёсць беларускіх фан-клубаў. Наколькі мне вядома, толькі "мроеўскі" на Гомельшчыне, "дынчыкаўскі" ў Мінску ды "ўлісаўскі" ў Варшаве. Каб быў, скажам, у "Рокіса" фан-клуб, дык хоць гурта і няма ўжо, ягоную творчасць не так бы хутка забывалі".

Таксама вельмі слушная думка, ці не так? І калі сярод чытачоў знойдуцца энтузіясты ўвасобіць у жыццё ідэю стварэння беларускіх фан-клубаў, "Нотны аркуш" з задавальненнем будзе друкаваць іхнія адрасы і аператыўную інфармацыю.

Аматары народных песень гэтым разам аказаліся хоць і актыўныя, але нешматслоўныя. Напрыклад, накшталт Генадзя Зодчанкі з Гомеля:"Светлыя вітанні вам з нагоды святаў. Няхай яшчэ раз будзе на вяршыні вашага Алімпа наш чароўны Міхась Забэйда-Суміцкі".

Адзін ліст атрымалі мы з Расіі. Юры Куртэнка з горада Навазыбкава зазначае:"Адзінай салiднай беларускай групай лічу "Мрою". Усе балы ёй за "...цягнік". Гэта крута!"

Цяжка адназначна сказаць, ці гэта камплімент, ці знявага беларускага рока? Дзякаваць Богу, сапраўды салідных рок-гуртоў у нас хапае. Проста можна паспачуваць чалавеку, што ў Расіі не лічаць патрэбным як след знаёміць сваіх грамадзян з культурамі суседзяў. З беларускіх рок-альбомаў там сапраўды распаўсюджваўся толькі дыск-гігант "Мроі" "28-я зорка". Пра "Краіну доўгай белай хмары" "Уліса", што выйшла ў Польшчы, пра "Гарэлку з ільдом" "Крамы", што выйшла ў Вялікабрытаніі і г.д., яны мабыць і не чулі. Дык што дзівіцца, што няма беларускіх рок-гуртоў і ў расійскіх гіт-парадах? Затое ёсць яны і ў гіт-парадзе Варшаўскага радыё, і ў гіт-парадзе "Бі-бі-сі"... Як еўрапейскі народ, мы і павінны імкнуцца ў Еўропу, дзе нас разумеюць.

А паглядзіце, колькі цудоўных беларускіх зорак, якіх называеце ў сваіх лістах вы, зазналі беларускія радыёхвалі з Мюнхену:

1. "Дарога ў рай" (муз. і сл. С.Хамякова). "Ален".
2. "Кастрычніцкі цягнік" (муз. і сл. калектыву). "Мроя".
3. "Песня падарожніка" (Я.Маркаў—С.Кныш). "Бонда".
4. "Чаму ж мне не пець?" (беларускі фальклор). Міхась Забэйда-Суміцкі.
5. "Вяртанне Булак-Балаховіча" (муз. і сл. А.Мельнікава). Андрусь Мельнікаў.
6. "Забыты свет" (І.Варашкевіч—З.Лукашук). "Рокіс".
7. "Краіна талераў" (муз. і сл. З.Сідаровіча). "Камэлот".
8. "Жаль не пакіне мяне" (муз. і сл. С.Мядзведзевай). Лана Медзіч.
9. "Пяшчота лiўня" (муз. і сл. Е.Акуліна). Едрусь Акулін.
10. "Не пі, сынок" (муз. і сл. В.Шалкевіча). Віктар Шалкевіч.

Вось такая атрымалася студзеньская беларуская гіт-дзесятка. Паколькі да складання яе далучыліся тысячы новых сяброў "Чырвонкі", нагадаем, што ў нашым штомесячным апытанні можа прыняць удзел кожны, хто назаве тры свае любімыя песні, іхніх выканаўцаў ды на паштоўках дашле (не пазней 15-га дня кожнага месяца), або на адрас радыё "Свабода": Belarusan service, postfach 221425, D-8000, Munchen,Germany) або нам у "Чырвоную змену": 220013. Мінск, вул. Б.Хмяльніцкага, 10а, "Нотны аркуш"). Найбольш змястоўныя лісты будуць адзначаны ў аглядзе пошты.

Вінцук ГУНЕНКА.
Фота У.ПАНАДЫ.

■

## з гісторыі Беларусі

# ЭМІГРАЦЫІ

...гімназіі быў створаны інтэрнат. За час існавання гімназій і школ пасведчанне аб адукацыі атрымалі сотні юных беларусаў. Большасць выпускнікоў пазней набылі вышэйшую адукацыю ва універсітэтах і вышэйшых школах Заходняй Еўропы і Амерыкі.

Гімназія імя Я.Купалы, як і пачатковая школа ў Міхельсдорфе, з'явілася цэнтрамі беларускага школьніцтва ў эміграцыі. Тут складаліся навучальныя праграмы, распрацоўваліся падручнікі для ўсіх беларускіх школ. У Ватэнштэце стараннямі настаўнікаў выдалі буквар, кнігу для чытання "Родны палетак", кнігу для чытання па гісторыі "Малюнкі мінулага". Беларускі нацыянальны камітэт выдаў геаграфію і Стары Запавет. Выдатная роля ў гэтай працы належала і Саюзу беларускіх настаўнікаў у Заходняй Нямеччыне. Увогуле настаўнікі доўгі час працавалі не толькі ў школах, але і вялі курсы для непісьменных і малапісьменных.

Акрамя навучальнай дзейнасці, гімназіі і школы вялі выхаваўчую працу, прывівалі беларускаму юнацтву любоў да нацыянальных каранёў. Шырокае развіццё атрымала пазашкольная дзейнасць вучняў. Гэта — беларускі скаўтынг, спартыўныя заняткі, мастацкая самадзейнасць, літаратурныя гурткі. У Ватэнштэцкай гімназіі вучні старэйшых класаў арганізавалі выпуск насценнай газеты "Кліч", у якой пісалі: "Школа нас рыхтуе на самастойных працаўнікоў і змагароў за лепшую долю нашага народа. Праз нашу газету мы і павінны выхоўваць і гартаваць наш беларускі дух".

Актыўна ўдзельнічала моладзь у выданні папулярнай сярод беларусаў "Жывой газеткі", якая ўмела, нават па-мастацку закранала актуальныя тэмы лагернага жыцця. У шмат якіх лагерах існавалі дзіцячыя садкі, дзе маленькія беларусы набывалі веды аб далёкім родным краі, вучыліся беларускім спевам, вершам, казкам.

У пасляваенныя гады беларускі нацыянальны камітэт і зонныя камітэты здолелі наладзіць больш-менш нармальнае культурнае жыццё. Урачыста адзначаліся гадавіны 25 сакавіка, Слуцкага паўстання. Разам з прадстаўнікамі іншых народаў — украінцамі, літоўцамі, латышамі — ладзіліся сумесныя вечары, навагоднія ялінкі, канцэрты, сустрэчы, выставы. У 1950 г. у Мюнхене быў заснаваны беларуска-грузінска-ўкраінскі клуб, вызначыўшы сваёй мэтай паглыбленне культурнай і навуковай сувязі паміж гэтымі нацыянальнасцямі. Для кіравання культурнай працай ініцыятыўная група беларусаў французскай акупацыйнай зоны пастанавіла стварыць "Беларускае культурна-асветнае таварыства". Французскія ўлады аднесліся да гэтай ідэі прыхільна, і з 6 сакавіка 1948 г. Таварыства пачало сваю дзейнасць. Яно гуртавала вакол сябе беларусаў з усіх галін мастацтва, праводзіла вечарыны, паказы, лекцыі, курсы, школы, паказваючы ўсяму свету каштоўнасці беларускага мастацтва, культуры і звычаяў. Таварыства ўзяло на сябе таксама арганізацыю навуковай працы беларускага грамадства французскай зоны.

Пры кожным беларускім лагеры існавалі хоры, аматарскія самадзейныя групы. Ладзіліся канцэрты, ставіліся тэатральныя пастаноўкі.

Значнай з'явай у культурным жыцці быў Беларускі тэатр эстрады. У 1944 г. у Берліне пад кіраўніцтвам У.Селяха працавала беларуская канцэртна-эстрадная група "Жыве Беларусь", якая ў 1945 г. ператварылася ў Беларускі тэатр эстрады. Напачатку тэатр працаваў у лагерах амерыканскай акупацыйнай зоны. Артысты ігралі перад жыхарамі лагераў ДП і салдатамі акупацыйных войск. Трупа складалася з прафесійных акцёраў. Пад кіраўніцтвам М.Куліковіча тэатр паступова стаў адным з лепшых сярод эміграцыйных згуртаванняў з усходніх краін. Артысты шмат зрабілі для азнаямлення народаў з беларускім мастацтвам. Тэатр аб'ехаў амаль усе лагеры трох зон Заходняй Нямеччыны, пабываў у Даніі, Аўстрыі. Вядомай сярод жыхароў лагера ў Астэргофене была Беларуская драматычная студыя, створаная ў 1947 г. Кіраўніком яе з'яўляўся вядомы мастак беларускай сцэны А.Кавалеўскі. Трэба адзначыць і аматарскую, але вельмі артыстычную групу беларускіх студэнтаў з Марбурга, якая наведала з канцэртамі ўсе вялікія беларускія асяродкі ў Нямеччыне.

Пазней, у 1948 г. з марбургскай "вялікай тройкі" пачала сваю гісторыю беларуская студэнцкая група пры Лювенскім універсітэце, а хор беларускіх студэнтаў зрабіўся сусветна вядомым.

Пэўныя культурныя задачы выконвалі міжнацыянальныя выстаўкі прац ДП, на якіх дэманстраваліся вырабы беларускіх майстроў. У 1947 г. у Ватэнштэце з нагоды другой гадавіны існавання лагера была наладжана выстава саматканых і ткацкіх вырабаў, рукадзелле. Былі паказаны працы краўцоў, сталяроў, мастакоў. Асобнае месца было адведзена лагернаму агародніцтву. Шэраг экспанатаў паказвалася на міжнароднай выставе ў Вашынгтоне: гэта мадэль ткацкага станка з натканым палатном і ўсімі вядомымі на Беларусі льноапрацоўваючымі прыладамі.

На выстаўцы мастацкіх твораў ДП у лагеры Шляйсгайме (1947 г.) асобным раздзелам было паказана і беларускае народнае мастацтва. Значнае месца занялі экспанаты з Палесся. Паказ выклікаў вялікую зацікаўленасць наведвальнікаў. Выстаўка ў Байроце (1948 г.) прыцягвала прыгожымі вырабамі, выкананымі разьбой па дрэву вядомым беларускім мастаком Я.Кузьміцкім.

На выставе "Беларускае друкаванае слова" (1948) былі паказаны амаль усе эміграцыйныя выданні.

Другая экспазіцыя "Фатаграфіі з беларускай грамадскай дзейнасці" адлюстравала ў здымках усе бакі нацыянальнага і культурнага жыцця беларусаў у Нямеччыне.

Беларускія перамяшчэнцы да пачатку працэсу рээміграцыі (лета 1948 г.) здолелі разбудаваць сваё грамадскае і культурнае жыццё. У выключна цяжкіх абставінах чужой, разбуранай краіны дзейнічалі грамадскія, палітычныя, навуковыя, культурныя, дабрачынныя, маладзёжныя, жаночыя і іншыя арганізацыі. Такім чынам, адносна невялікая колькасна беларуская група змагла нацыянальна самавызначыцца, не згубіцца сярод чужых асяроддзяў.

У 1951 г. працэс масавага выезду беларусаў з Нямеччыны ў краіны новага пасялення ў асноўным закончыўся, але значная колькасць эмігрантаў засталася. Хворыя, састарэлыя, мнагадзетныя, яны пазбавіліся права на эміграцыю і вялі паўгалоднае існаванне ў лагерах. Краіны Захаду і ЗША шчыльна зачынялі перад гэтымі людзьмі свае граніцы, абаранялі іх сотнямі законаў і праверак. На пачатку 1951 г. у Заходняй Нямеччыне налічвалася каля 13 тысяч хворых і старых, якія патрабавалі спецыяльнай апекі. Яны маглі эмігрыраваць толькі на аснове спецыяльнай дамоўленасці паміж ІРО і ўладамі краін, якія былі б згодны іх прыняць. ІРО не магла ўжо аказваць дзейснай дапамогі ўцекачам, а ў верасні 1951 г. і зусім спыніла сваю дзейнасць. Апеку над ДП прыняў нямецкі ўрад. У 1952 г. у Нямеччыне яшчэ існавалі 104 лагеры ДП, у якіх пражывала да 50 тысяч чалавек. Усе яны былі ўключаны ў нямецкую сістэму гаспадаркі і жылі на дапамогу міністэрства для ўцекачоў. У месяц на галаву сям'і выплачвалася 35 марак, на членаў сям'і — 25 і на дзяцей — 20 марак. Апрача гэтага, выдавалася нязначная сума на дробныя расходы. З гэтых грошай трэба было заплаціць за газ, электрычнасць, радыё, пражытак. Купіць вопратку, абутак, харч не было ніякай магчымасці. У 1953 г. Беларускі нацыянальны камітэт зарэгістраваў каля 500 беларусаў, якія патрабавалі дапамогі. Хворых на сухоты налічвалася каля 100 чалавек, з якіх толькі нязначная частка знаходзілася ў санаторыі. Дапамогу ўцекачам як маглі аказвалі іх суродзічы з іншых краін, міжнародныя арганізацыі, пераважна Міжнародны чырвоны крыж, фонд інвалідаў у Бельгіі, але і іх магчымасці былі даволі сціплыя.

Нямецкі ўрад пачаў рабіць захады па вырашэнню праблемы перамяшчэнцаў. У 1951 г. пры Нямецкім банку ў Боне быў створаны "Аддзел для ДП" для тых, што не маглі выехаць, але яго паслугамі змаглі пакарыстацца нямногія. Было відавочна, што лагеры ДП падлягалі ліквідацыі. Для гэтай мэты Вярхоўным камісарам ААН па справах бежанцаў і ўцекачоў быў выпрацаваны 4-гадовы план, на выкананне якога патрабавалася 16 мільёнаў даляраў. Прадугледжвалася будаўніцтва 560 памяшканняў для перамяшчэнцаў, выдзяленне стыпендый студэнтам, дапамога па прафесіянальнаму абучэнню моладзі і іншыя меры. У 1956 г. лагеры ДП спынілі сваё існаванне. Нямецкі ўрад выдаў загад прымаць перамяшчэнцаў на працу на нямецкія прадпрыемствы па любой прафесіі пры ўмове самастойнага набыцця жылля блізка ад месца працы. Але на практыцы ўладкавацца на працы ДП было амаль немагчыма. У краіне панавала беспрацоўе і немцы давалі працу ў першую чаргу сваім суайчыннікам. Да таго ж нямецкае насельніцтва адносілася варожа да чужынцаў з Усходу, абвінавачваючы іх у сваіх нягодах. Шмат хто з беларусаў застаўся ў Нямеччыне назаўсёды, іншыя ў розныя гады змаглі атрымаць запрашэнні на пераезд і пакінулі краіну.

Нялёгкая доля выпала беларускай эміграцыі. Але дзеля іх гонару трэба адзначыць, яны паказалі сябе жыццяздольнымі, згуртаванымі, вартымі сваёй роднай Бацькаўшчыны, свайго таленавітага народа.

